Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

№13(625) 29 сакавіка 2012 года.

Кошт свабодны.





Сяброўкі Людмілы – ветэраны, актывісткі, спартсменкі, прыгажуні. Працяг тэмы на стар. 11. *Фота Я. Самсонава.*

## Экалагічныя арганізацыі Беларусі распачалі кампанію па прадухіленні вясновага выпальвання сухой расліннасці

Экалагічныя арганізацыі Беларусі пачалі рэспубліканскую інфармацыйную кампанію, скіраваную на ліквідацыю прыродных пажараў, спыненне практыкі выпальвання сухой расліннасці і спальвання бытавога смецця. Пра гэта БелаПАН паведаміла прэс-сакратар экалагічнага таварыства «Зялёная сетка» Алена Радына.

Акрамя «Зялёнай сеткі» ўдзельнікамі кампаніі сталі Цэнтр экалагічных рашэнняў, грамадскія аб'яднанні «Экадом», «Ахова птушак Бацькаўшчыны», «Экапраект партнёрства», «Чыстая вада» і «Мінскае веласіпеднае таварыства».

Яны распаўсюдзілі адозву да грамадзян з заклікам прыкласці намаганні для спынення згубнай практыкі вясновага выпальвання. У выніку выпальвання адбываецца дэградацыя прыроды, знішчаецца расліннасць, збядняецца яе відавы склад, гінуць многія віды жывёл, птушак і насякомых, адзначаюць эколагі.

Выпальванне прыводзіць да эрозіі глебы і забруджвання паветра. Прычым, калі разам з травой спальваюць смецце, у паветра трапляюць стойкія арганічныя забруджвальнікі, такія, як дыяксіны і фураны, якія вельмі таксічныя. У многіх выпадках менавіта выпальванне сухой расліннасці з'яўляецца прычынай пажараў у лясах і на тарфяніках.

Выпальванне сухой расліннасці забаронена законам. За гэта прадугледжаны штраф ад 10 да 40 базавых велічынь.

Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар МНС Віталь Навіцкі, з пачатку 2012 года ў Беларусі было зарэгістравана 1 тыс. 190 выпадкаў узгарання травы і кустоўя агульнай плошчай 688 га. Пераважная большасць з іх — у Гродзенскай і Брэсцкай абласцях. Толькі за мінулую нядзелю ў гэтых рэгіёнах зафіксаваны 133 выпадкі ўзгарання травы і кустоўя. Акрамя таго, з пачатку года адбыўся 21 лясны пажар на плошчы 9 га ў Брэсцкай вобласці.

Прэс-сакратар МНС падкрэсліў: акрамя ўрону прыродзе выпальванне ўяўляе небяспеку для жыцця і здароўя людзей. Сёлета з-за яго ўжо пацярпелі жыхары Беларусі. Так, 14 сакавіка ў Брэсцкім раёне загінуў пенсіянер 1949 года нараджэння, які тушыў узгаранне сухой травы ў суседа. 16 сакавіка ў Ганцавічах быў траўмаваны вучань 4-га класа, які спрабаваў самастойна патушыць сухую траву, што гарэла на пустцы, і ў выніку атрымаў апёкі 18% плошчы цела. Вечарам 25 сакавіка пры тушэнні сухой травы ў Іванаўскім раёне пацярпеў мужчына 1954 года нараджэння, які атрымаў апёкі 30% плошчы цела.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

## «Увага! Недысцыплінаваныя пешаходы!»

**Цынковіч М.А.,**
*ст. інспектар ДПС ДАІ, капітан міліцыі*

30 сакавіка 2012 года на тэрыторыі раёна аддзелам ДАІ будзе праведзены Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам «Увага! Недысцыплінаваныя пешаходы!» У гэты дзень праца ДАІ будзе накіравана на прафілактыку парушэнняў ПДР пешымі ўдзельнікамі дарожнага руху.



Глыбоцкі раён

# Так дапякло жыццё

■ Станіслаў Раманчук

**Афіцыйныя СМІ чамусьці замоўчваюць той факт, што ў Беларусі разам з п'янствам расце і колькасць псіхічнахворых суайчыннікаў.**

Сведчаннем гэтага стала тое, што і адзін з лепшых у краіне дамоў-інтэрнатаў для пажылых у Глыбоцкім раёне памяняў некалькі гадоў назад свой статус на ўстанову закрытага тыпу. У пяціпавярховым будынку ў вёсцы Петрунова недалёка ад райцэнтра зараз ізалявалі ад грамадства 250 чалавек з рознымі адхіленнямі ў псіхіцы. Сярод іх усё часцей сустракаюцца і агрэсіўныя людзі, якія не ўсведамляюць, што яны робяць, і таму становяцца небяспечнымі для акружаючых. Супрацоўнікаў псіхінтэрната здзіўляе тое, што іх кліентамі становяцца ўсё больш маладых беларусаў. Самай маладой пацыентцы споўнілася толькі 19 гадоў, і ў яе мала шанцаў вярнуцца ў нармальнае жыццё. Па розных прычынах трапляюць у гэты казённы дом з санітарамі людзі, сярод іх ёсць і з вышэйшай адукацыяй. Нядаўна прывезлі з Браслаўскага раёна таксама маладую жанчыну з паспяховай кар'ерай у ЗША, дзе яна выйшла замуж, парадзіла дзіця і захварэла. Знайшлі тут прытулак і бацька з сынам з абласнога цэнтра, якія працавалі медыкамі, а адзін з іх нават … урачом-псіхіятрам. Самы непрыемны момант, калі ў хворых здараюцца прыступы абвастрэння хваробы. Таму ва ўстанове няма дзвярэй у жылых пакоях, запламбаваны ўсе разеткі і светлыя краты на вокнах, каб не здарылася новых бедаў. Дарэчы, у суседнім Пастаўскім раёне ідзе рэканструкцыя падобнай установы, дзе павялічыцца колькасць месцаў для псіхічна хворых. На Глыбоччыне за час дзейнасці інтэрната толькі 2 пацыенты вярнуліся назад у свае сем'і.




Пастаўскі раён

# Жыллё не па кішэні?

■ Кастусь Александровіч

**Леташні эканамічны крызіс моцна ўдарыў па многіх, але найбольш пацярпелі ад яго айчынныя будаўнікі.**

Вось і ў Пастаўскім раёне ўслед за Варапаеўскім заводам жалезабетонных вырабаў у амаль крытычнай сітуацыі апынулася нядаўна лепшая ў трэсце "Полацксельбуд" аграбудфірма "Расвет Пастаўскі". Адсюль звольніліся і паехалі на заробкі, у асноўным у Расію, многія муляры і іншыя спецыялісты. Па прычыне адсутнасці фінансавання ўзвядзенне жылля і іншых аб'ектаў зацягваецца, нават заробкі сваім працаўнікам выплочваюцца са спазненнем. У асноўных заказчыкаў няма грошай, за што будаваць далей сучасную ферму з робатамі ў Коўзанах і пачаты шматкватэрны жылы дом для сельгаспрадпрыемства "Камайскі-агра". Дайшло да таго, што на будоўлю апошняй 8-й па ліку шматпавярхоўкі ў райцэнтры нанялі цэлую брыгаду з другога канца Беларусі, з бударганізацыі горада Маларыта паблізу Брэста. Гэта дапамагло захаваць намечаны графік будаўніцтва. А вось з шэрагам забудоўшчыкаў раптам узніклі праблемы з заключэннем дамоў на пабудову ім кватэр. Нават з дзяржаўнай крэдытнай падтрымкай малыя даходы асобных людзей не дазваляюць ім узводзіць жыллё коштам больш 5 млн. рублёў за квадратны метр. Далейшыя перспектывы ў будфірмы ўвогуле невядомыя, бо на гэтым будаўнічы бум можа закончыцца і наступіць поўны застой галіны ў глыбінцы, дзе новыя аб'екты нават не праглядваюцца.

Полацкі раён

# Колькі б вяровачцы ні віцца

■ Чэслаў Якубовіч

**На фоне ажыятажнага попыту летась у першай палове года на іншамаркі ў Полацкім раёне пачала сваю дзейнасць арганізаваная злачынная група з трох чалавек.**

Мясцовы жыхар і яшчэ двое навапалачан, меўшых раней судзімасці, вырашыліся заняцца прыбытковым бізнесам па арыгінальнай схеме. Яны спачатку вывучалі прапановы беларусаў у друку і ў сетцы Інтэрнет аб продажы і набыцці іншамарак, але спачатку набывалі даволі новыя, не старэй 2008 года выпуска легкавыя аўтамабілі, скрадзеныя ў Расіі. Для іх падбіраўся двайнік на калёсах, падобнага колеру і класу, але зарэгістраваны законным чынам у Беларусі. Далей дзялкі прыкідваліся патэнцыйнымі пакупнікамі машын у сваіх суайчыннікаў і даведваліся ў іх уладальнікаў нумары кузава, рухавіка, пра неабходныя рэгістрацыйныя дакументы. Затым на гарадской кватэры гэта тройка выробляла на сучасным каляровым прынтары падробныя дакументы на скрадзены расійскі аўтамабіль-двайнік. Такім чынам махінатары ў горадзе над Дзвіной незаконна прадалі расіяніну летась угнаную "Мазду-3" з перабітымі ідэнтыфіцыраванымі нумарамі і іншымі фальшывымі дакументамі. Аднак "пракалолася" група выпадкова: у гаражы цешчы аднаго з дзялкоў міліцыя знайшла яшчэ адну скрадзеную іншамарку-двайніка. Следства па гэтай справе доўжылася больш 4-х месяцаў, суд паставіў кропку. Двое самых актыўных удзельнікаў асуджаны на 5 і 3 гады і 8 месяцаў пазбаўлення волі. Трэці падзельнік, які займаўся толькі фальшывымі дакументамі, заплоціць штраф у суме 24,5 млн. рублёў.

# Лічба нумара

## 108

**Столькі грамадзян Беларусі**, па дадзеных вядомага інтэрнет-партала tut.by, атрыманых з крыніц у дзяржаўных структурах, нібыта сталі невыязнымі з нашай краіны. Прэс-служба Міністэрства замежных спраў РБ адразу негатыўна расцаніла гэту інфармацыю, а прэс-сакратар МЗС А. Савіных назваў яе банальнымі чуткамі, якія не патрабуюць каментарыяў спецыялістаў. Аднак ці гэты чыноўнік пра такую лічбу не ведаў, альбо зрабіў выгляд, бо ў нас, сапраўды, пачался зразумелыя толькі беларусам рэчы і праз дзяржаўную мяжу на працягу некалькіх дзён не прапусцілі на выезд за граніцу шэраг вядомых людзей.

Як і прадказвалася, у гэтым спісе з'явіўся неўзабаве на расійскіх тэлеканалах нават першы кіраўнік незалежнай Беларусі, прафесар Станіслаў Шушкевіч і стаў паказваць свой пашпарт з прастаўленым штампам "у выездзе адмоўлена". А першымі яшчэ напярэдадні свята жанчын не выпусцілі ў Літву апазіцыйных палітыкаў з партыі АГП, у мінулым вядомых беларускіх дэпутатаў А. Лябедзьку і А. Дабравольскага. Потым падобныя паведамленні сталі прыходзіць практычна штодзень. Спіс айчынных невыязных рос з кожным днём, а дэмарш афіцыйнага Мінска быццам паказваў Еўропе, што беларуская ўлада свае словы трымае.

Падраздзяленні па грамадзянству і міграцыі сталі крайнімі ў гэтай сітуацыі, бо яны павінны строга прытрымлівацца патрабаванняў Закону "Аб парадку выезду з Рэспублікі Беларусь і ўезду ў Рэспубліку Беларусь грамадзян Рэспублікі Беларусь". А іх кліентамі па падобных справах услед за палітыкамі і нацыянальнымі дзеячамі сталі станавіцца і журналісты, праваабаронцы. Вінаватай нібыта "па справе аб банкрутцтве" стала старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна. 38-гадовы шэф-рэдактар старэйшай беларускай газеты "Наша ніва", старшы лейтэнант запасу Андрэй Дынько стаў невыязным "за ўхіленні на мерапрыемствы па прызыве", хоць ніякіх падобных позваў з ваенкамата не атрымоўваў.

Увогуле існуе толькі 8 выпадкаў у заканадаўстве, калі беларускім грамадзянам часова можа быць абмежавана права на выезд з Беларусі. І толькі па рашэнню суда могуць з'явіцца падобныя абмежаванні з крымінальным падтэкстам. Але ўсё больш відавочна, што чарговы канфлікт з выездам за межы краіны атрымоўвае далейшае развіццё. Праваабаронцы і незалежныя юрысты называюць такія дзеянні ўладных структур, у першую чаргу выканаўцаў – міліцыі - неканстытуцыйнымі.

Напрыклад, адзін з такіх новых невыязных, праваабаронца А. Бандарэнка атрымаў на граніцы "ад варот паварот" з падачы Міністэрства абароны РБ за тое, што быццам ўхіляўся ад якіх на мерапрыемствы па прызыве на ваенную службу. Аднак у ваенкамаце, куды ён звярнуўся, параілі не дурыць галаву, паколькі ніякіх дзеянняў наконт ягонага далучэння да армейскіх будняў там не прадпрымалі. А вось былы кіраўнік Вярхоўнага Савета РБ С. Шушкевіч, здаецца, ні па якіх крымінальных справах не праходзіць, у суды не выклікаўся, законаў не парушаў, па ўзросце ўжо да ваеннай службы не годны, а бач ты, стаў невыязным.

Іншы прыклад, той жа лідар АГП А. Лябедзька ў Літву ўсё ж трапіў акружным шляхам, вярнуўся дамоў і на працягу паўмесяца не змог у райаддзеле АвіРа высветліць, на якой падставе яго не пускаюць за граніцу (нейкі дзіўны камп'ютарны вірус быццам з'явіўся там у базе дадзеных). Без сумнення, назіраем мы прававое бязмежжа на фоне паглыблення санкцый Еўропы супраць беларускіх чыноўнікаў. На жаль, гэты канфлікт будзе толькі пашырацца пасля паспешнага расстрэлу двух ураджэнцаў Віцебска па справе тэракту ў метро Мінска і значнага пагаршэння адносін Беларусі з Брусселем.

Пакуль жа, як мінімум, першых 10 вядомых прадстаўнікоў на руках маюць пашпарты з адзнакамі " ў выездзе адмоўлена". Граніцы Беларусі, як у старыя савецкія часы, становяцца на ўсё больш сур'ёзным замку. Малы прыгранічны рух у прыгранічны з Літвой і Польшчай другі год ніяк нашы ўлады адкрыць не могуць, а прывід нябачнай жалезнай заслоны для беларусаў становіцца ўсё больш відавочным і ганебным у XXI стагоддзі.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 29.03.12 | | | | Пятніца 30.03.12 | | | | Субота 31.03.12 | | | | Нядзеля 01.04.12 | | | | Пнд. 02.04.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +5 | +4 | +2 | +2 | +1 | +1 | +3 | 0 | -1 | 0 | +1 | 0 | -1 | -1 | +1 | -2 | -3 | -2 | +1 |
| Ціск | 730 | 724 | 724 | 728 | 730 | 733 | 735 | 736 | 734 | 730 | 725 | 722 | 721 | 725 | 729 | 734 | 736 | 738 | 739 |
| Вільготнасць | 89 | 98 | 86 | 87 | 89 | 89 | 56 | 75 | 82 | 96 | 88 | 90 | 91 | 92 | 60 | 66 | 73 | 78 | 47 |
| Вецер м/сек | 5 Ю-З | 4 З | 8 С-З | 7 С-З | 5 С-З | 5 С | 3 С | 0 ШТЛ | 4 Ю-В | 4 Ю-З | 8 Ю-В | 3 Ю-В | 3 В | 7 С | 5 С | 3 С-З | 1 С-З | 3 З | 4 Ю-З |

## Дзень за днём

**Беларусь, як і Грэцыя, апынулася на мяжы дэфолта, бо, па дадзеных Нацбанка РБ, павінна сёлета выплаціць 18,9 млрд. $ доўгу, што складае 34,6 % ад ВУП краіны. Айчынных спажыўцоў засмуціла чарговае падаражанне паліва і цукру адразу на 5-7 %. Каб неяк выжыць, ужо больш паўмільёна беларускіх пенсіянераў, кожны пяты з іх вымушаны працаваць і на заслужаным адпачынку. Міністэрства адукацыі плануе восенню у 2 разы павысіць кошт навучання ў ВНУ па юрыдычных і эканамічных спецыяльнасцях. Кіраўніцтва Беларусі вырашыла бясплатна забяспечваць дзяцей да 3-х гадоў лекамі, інвалідам 3-й групы прадаставілі на іх скідкі ў памеры 50 %. Сёлета вырошчваць бульбу ў краіне будуць толькі 204 гаспадаркі, раней ёй займаліся 800 калгасаў.**

## Важнейшыя навіны свету

**Кітай.** Прэм'ер дзяржсавету КНР Вэнь Цзябао заявіў, што краіне патрабуецца істотная рэформа палітычнай сістэмы, інакш можа здарыцца новая "культурная рэвалюцыя".

**Сірыя.** Толькі падтрымка Расіі і пастаўкі яе зброі дазваляюць пакуль рэжыму Б. Асада захоўваць уладу другі год, мірнага ўрэгулявання сітуацыі ўжо не будзе, бо безліч ахвяр.

**ЗША.** Самымі напружанымі з 1976 года сталі пярвічныя выбары лідара перадвыбарнай гонкі сярод рэспубліканцаў адразу ў 10 штатах, у партыі намецўся сур'ёзны раскол.

**Бельгія.** Краіну шакіраваў выпадак з турыстычным аўтобусам у горным тунелі Швейцарыі на мяжы з Італіяй, у аварыі загінулі ноччу 28 бельгійцаў, з іх 22 дзіцяці і 2 вадзіцелі.

**Літва.** Глава МЗС краіны А. Ажубаліс назваў праекты АЭС у РБ і ў Калінінградскай вобласці РФ бездаказнымі, парушаючымі міжнародныя нормы атамнай бяспекі.

**Расія.** РФ не дасць Беларусь у крыўду, як заявіў віцэ-прэм'ер урада Д. Рагозін, акажа ёй усебаковую падтрымку ў выпадку ўзмацнення палітычных і эканамічных санкцый ЕС.

**Японія.** Ніводны населены пункт краіны не даў згоды на аднаўленне работы закрытых год назад пасля землятрусу 54 ядзерных рэактараў, усе яны могуць быць закрытыя ўжо гэтым летам.

**Літва.** Урад краіны дамовіўся з калегамі з Латвіі і Эстоніі да канца чэрвеня падпісаць дагавор аб сумесным узвядзенні да 2020 года новай Вісагінскай АЭС замест закрытай.

**Польшча.** Грубая памылка дыспетчара, па высновах пракуратуры, стала тут прычынай сутыкнення двух пасажырскіх цягнікоў і гібелі 16 чалавек, яму пагражае да 8 гадоў турмы.

**Малдова.** У краіне завяршыўся палітычны крызіс: парламент абраў новым прэзідэнтам 63-гадовага юрыста Мікалаэ Цімофці, гэта не ўдавалася зрабіць з красавіка 2009 года.

**Кітай.** Ужо летам у складзе экіпажа касмічнага карабля "Шэньчжоу-9" можа паляцець у космас першая кітайская жанчына-касманаўт, да 2020 года КНР узвядзе станцыю на арбіце.

**Індыя.** Згодна перапісу больш 1 мільярда насельніцтва краіны, болей паловы індусаў маюць мабільныя тэлефоны, але жывуць у дамах без туалетаў, апраўляюцца на вуліцах.

**Францыя.** Еўрапарламент выказаўся аб тым, што чэмпіянат свету па хакею 2014 года не павінен прайсці ў Беларусі, пакуль там парушаюцца правы чалавека, ёсць палітвязні.

**Турцыя.** Турэцкі пасол у РБ Незіхі Азкая паведаміў, што гатова пагадненне аб адмене візавага рэжыму паміж Беларуссю і Турцыяй, якую летась наведалі 160 тысяч беларусаў.

**Фінляндыя.** Віцэ-прэзідэнт ІІНF Калерва Кумола пацвердзіў, што восенню ў Японіі міжнародная федэрацыя хакея вырашыць, ці пераносіць з Мінска чэмпіянат свету-2014 года .

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** А. Лукашэнка зноў паабяцаў, што Беларусь пакуль не пойдзе на павышэнне пенсійнага ўзросту, але будзе стымуляваць людзей пазней 55-60 г. выходзіць на пенсію.

**Астравец.** Для аховы асоба важнага аб'екта, будучай АЭС на факультэце ўнутраных войскаў пачнуць рыхтаваць афіцэраў спецыяльна для службы на атамным аб'екце.

**Мінск.** Глава Нацбанка Беларусі Надзея Ермакова заявіла, што рэзкага зніжэння стаўкі рэфінансавання не будзе, яе велічыня будзе залежыць ад далейшых тэмпаў інфляцыі.

**Тураў.** Са згоды кіраўніцтва Гомельскай вобласці ў адной з самых маляўнічых мясцін Беларусі ў пойме Прыпяці высеклі злачынным чынам 15 старажытных дубоў-волатаў.

**Ліда.** У садружнасці з нарвежскай фірмай Jotun Paints прадпрыемства "Лакафарба" асвоіла вытворчасць антыкаразійных лакафарбавых матэрыялаў, яны паспяхова выпрабаваны ў РБ

**Магілёў.** Ужо ў ліпені ў СЭЗ "Магілёў" запусцяць у эксплуатацыю 1-ы пускавы аб'ект – сучасны мэблевы кластар, дзе пачнуць выпускаць мэблю вядомай фірмы ІКЕА (Швецыя).

**Рагачоў.** Ініцыятар збору подпісаў за вяртанне гораду "Дажынкі-2013" Дзяніс Дашкевіч стаў беспрацоўным, з ім чамусьці не прадоўжылі ў райпо кантракт, які скончыўся.

**Мінск.** З дазволу ўладаў сталіцы на стыку вуліц Багдановіча і Шырокай паўстане першы супермаркет літоўскай сеткі Глера Капа плошчай 1500 кв. метраў, Махіма адмовілася.

**Мазыр.** Пасля свайго звальнення з педуніверсітэта выкладчык-пенсіянер у знак помсты абліў ртуццю аўтамабіль загадчыка кафедры, за хуліганства яго судзіць не будуць.

**Астравец.** Ноччу на граніцы з Літвой ля пункта пропуску "Катлоўка" згарэла пасля трох сутак чакання расійская фура з сантэхнікай з-за кароткага замыкання абагравальніка.

**Жлобін.** Паблізу вёскі Беліца міліцыя спыніла два мікрааўтобусы, у якіх жыхары Салігорска і Бабруйска перавозілі партыю кантрабанднага адзення коштам 1 млрд. рублёў.

**Столін.** З дапамогай "дэтэктара хлусні" міліцыя ўстанавіла, што 29-гадовая беспрацоўная з вёскі Ольманы за два тыдні тройчы падпальвала хлявы сваіх землякоў-пенсіянераў.

**Мінск.** А. Лукашэнка ўпершыню прызнаў, што чэмпіянат свету па хакеі 2014 года можа быць перанесены з Мінска, але Беларусь прадоўжыць актыўна рыхтавацца да першынства.

**Магілёў.** Міліцыя распачала следства па крымінальнай справе супраць 17-гадовай вучаніцы СШ№8 зараспаўсюджванне праз Інтэрнет порна з малалетнімі дзецьмі.

**Бабруйск.** За тыдзень да старту чэмпіянату РБ па футболе АБФФ дапусціла да ўдзелу ў ім ФК "Белшына", "Славію" (Мазыр), ФК "Клечэск" апынуўся на грані банкротцтва.

## Мінадукацыі разглядае пытанне аб поўнай аплаце за навучанне на шэрагу спецыяльнасцяў



■ БелТА

**Мінадукацыі Беларусі разглядае пытанне пра ўвядзенне поўнай платы за навучанне на незапатрабаваных спецыяльнасцях, аб гэтым паведаміў у інтэрв'ю карэспандэнту БелТА міністр адукацыі Сяргей Маскевіч. Найперш гэта тычыцца юрыстаў і эканамістаў.**

У ведамстве прапрацоўваецца такі дакумент.

«Мы зараз прапрацоўваем прапановы пра ўвядзенне платы за навучанне па спецыяльнасцях юрыдычнага і эканамічнага профіляў з поўным пакрыццём выдаткаў на навучанне», — сказаў міністр.

Ва ўказе Лукашэнкі ўстаноўлена максімальная рэнтабельнасць для спецыяльнасцяў, якія карыстаюцца асаблівым попытам. Бюджэтны набор — гэта заказ дзяржавы менавіта на тых спецыялістаў, у якіх востра маюць патрэбу галіны эканомікі краіны, усё астатняе — асабістае жаданне абітурыента і яго бацькоў. «У гэтым годзе 25% апытаных выпускнікоў збіраюцца паступаць на эканоміку. Дык чаму дзяржава павінна субсідаваць іх вучобу? Ці ёсць такая патрэба на рынку працы? Вядома, няма», — адзначыў ён.

На дадзены момант з усіх выдаткаў, якія нясе навучальная ўстанова, толькі прыкладна 50% кампенсуецца студэнтамі і навучэнцамі.

Адпаведна ўзнікае пытанне: як далей быць, падтрымліваць у аднолькавай ступені ўсе спецыяльнасці або вылучаць нейкія прыярытэты? Прычым гаворка не ідзе аб бюджэтных наборы — там лічба карэлюецца зыходзячы з патрэб эканомікі і дэмаграфічнай сітуацыі.

Цяпер праводзіцца аналіз, якія менавіта спецыяльнасці можна было б падтрымаць з боку дзяржавы, з улікам вопыту іншых краін. У Нямеччыне, напрыклад, цалкам на дзяржаўным забеспячэнні знаходзяцца студэнты тэхнічных спецыяльнасцяў. «Мы прапануем пакінуць дзяржпадтрымку студэнтаў-платнікаў, якія навучаюцца па спецыяльнасцях, у якіх сёння асабліва зацікаўлена краіна: натуральна-навуковыя, тэхнічныя, медыцынскія», — сказаў Сяргей Маскевіч.

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Пасля адмовы памілаваць 26-гадовага сына Любоў Кавалёва заявіла, што яму адпомсцілі за праўду, агучаную на судзе аб справе тэракту летась у Мінскім метро.

**Глыбокае.** На фоне крызісу будгаліны раён застаўся адзіным у вобласці, дзе вядзецца будаўніцтва адразу чатырох 60-кватэрных дамоў, у чарзе на жыллё стаяць 1700 чалавек.

**Верхнядзвінск.** На тэрыторыі раёна прайшоў тыдзень цвярозасці, толькі летась на ўлік да нарколага тут узялі яшчэ 72 п'яніцы, з іх 9 жанчын, 10 падлеткаў, 19 чалавек маладзей 30.

**Віцебск.** Толькі ў лютым маніторынг умоў працы выявіў 204 парушэнні тэмпературнага рэжыму на прадпрыемствах і ў арганізацыях вобласці, наклалі 129 штрафаў на вінаватых.

**Наваполацк.** Сёння ў нафтаградзе пачаўся прадстаўнічы першы беларуска-латвійскі форум гарадоў-пабрацімаў з удзелам прадстаўнікоў міністэрстваў і ведамстваў РБ і ЛР.

**Дуброўна.** На бязадходную тэхналогію працы перайшоў мясцовы льнозавод, тут пачалі выпускаць льновацін для мэблевай прамысловасці, запрацавала і бельгійская лінія.

**Орша.** Дзяржкантроль адмяніў вынікі снежаньскага тэндару на арганізацыю пасажырскіх перавозак у горадзе і яго прыгарадах, транспартнікі аб'явілі новы такі конкурс.

**Глыбокае.** У вельмі цяжкім стане трапіў у райбальніцу 47-гадовы беспрацоўны з вёскі Пятроўшчына, які п'яны моцна абгарэў пры запраўцы бензапілы на нарыхтоўцы дроў.

**Талачын.** У ліку чатырох на Віцебшчыне раён найболей пацярпеў ад моцнага ветру: адключыліся 3 ЛЭП, 25 трансфарматарных падстанцый, без свету былі 17 паселішчаў.

**Лепель.** Праз тыдзень пошукаў вадалазы знайшлі цела патанулай у рацэ Улла 6-гадовай дзяўчынкі, яна стала сёлета 4-й па ліку ахвярай няшчасных выпадкаў на вадзе ў вобласці.

**Верхнядзвінск.** Раніцай у сваім доме ў вёсцы Боркавічы на пажары загінула 63-гадовая пенсіянерка і яе беспрацоўны сын з Наваполацка, які прыехаў "замачыць" пенсію маці.

**Руба.** Падчас разборкі бытавога скандалу псіхічна хворы тапорыкам для раздзелкі мяса ледзь не адсек вуха супрацоўніку міліцыі, буяна АМАН даставіў потым у псіхбальніцу.

**Глыбокае.** У штрафным ізалятары мясцовай калоніі, куды зноў змясцілі грамадскага актывіста Зміцера Дашкевіча, яго змагла наведаць адвакат, але гутарка ішла праз шкло.

**Полацк.** У кабіне грузавога аўтамабіля Мерседэс, які загарэўся днём, выратавальнікі МНС пасля ліквідацыі пажару знайшлі трупы загінуўшых двух вадзіцеляў з Мінска.

**Шаркаўшчына.** Суд асудзіў на 1 год пазбаўлення волі з адтэрміноўкай прыгавору на адзін год зусім не бедную жанчыну, якая крала з мясцовых могілак вазоны з-пад кветак.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Усё, што мы бачым, – твар краіны!

■ Уладзімір Скрабатун

Да аўтара гэтых радкоў завітала спадарства Мельнічэнкаў з вёскі Маргі. Мельнічэнкі, набыўшы там дом, фактычна, адрадзілі гэтую вёску Глыбоччыны, якой было наканавана знікнуць з мапы Беларусі. У кантэксце "Народнай Праграмы" мы ўжо змяшчалі матэрыял па гэтай тэме[1]. Многім нашым чытачам спадарства Мельнічэнкаў запомнілася сваім метадам нетрадыцыйнага вырошчвання бульбы ў саломе. Хтосьці нават зацікавіўся такім метадам і хоча паспрабаваць тое здзейсніць на сваім прысядзібным участку. Але нагодай для сутрэчы было не абмеркаванне метада вырошчвання бульбы, а дарожная шыльда, якую паставілі пры ўедзе ў вёску.

– По нашей просьбе поставили дорожный указатель с именем нашей деревни,– кажа Раман Мельнічэнка,– но написали его с ошибкой – "МАРГИ", правильно по-русски будет – "МОРГИ". Не понятно: почему написано и не по-русски, и не по-белорусски. По-белорусски же будет – "МАРГІ". Ведь название деревни происходит от слова «морг», единицы измерения площади, которую человек может скосить или вспахать с утра до полудня. Оно, в свою очередь, происходит от немецкого слова «morgen» ("утро").




– Глыбоччына, бадай, адзіны рэгіён Беларусі, дзе грэбуюць беларускай мовай,– кажа аўтар гэтых радкоў. Напрыклад, нашыя дарожнікі хочуць паказацца больш рускімі, чым самі рускія. Русіфікацыя шыльдаў на Глыбоччыне прыводзіць да нечаканых вынікаў! Вось жа самі рускія пішуць "Воркута", а не – "Воркуто"; "Инта", а не – "Инто"; "Ухта", а не –"Ухто"; "Охта", а не – "Охто"…

Гідронімы і тапонімы нашага краю: Волта, Мнюта, Аута – "з той жа самай оперы", бо гэта назовы фінаўгорскага паходжання[2]. З даўніх часоў на ўсіх мапах, якія б яны не былі з паходжання: ВКЛаўскія, польскія, рускія альбо савецкія, заўсёды пісалася – "Мнюта", лацінкай – "Mniuta". Але ніколі – «Мнюто»! Зыходзячы з таго, што мы жывём на Беларусі, а надпісы па вызначэнні мусяць пісацца на дзяржаўнай мове, г.зн., беларускай, то прыезджы чалавек, ведаючы, што літара "о" пішацца толькі пад націскам, прачытае – "МНЮТ**О**".

– Я сама имею русские корни,– кажа Святлана Мельнічэнка, маці Рамана Мельнічэнкі. Живя в Беларуси, с уважением отношусь к белорусской культуре, белорусскому языку, стараюсь им овладеть. И не могу понять неуважительное отношение к этому самих белорусов. К нам в Морги часто приезжают гости, притом из заграницы. Недавно были шведы. Приезжие всегда удивляются: почему надписи на дорожных знаках пишутся на иностранном языке, а не на государственном. Ведь всё это – лицо страны!



Маргі? *Фота Р. Мельнічэнкі.*

– "Вашыя словы – ды Богу ў вушы!" – народная прымаўка,– кажа аўтар. Вось не разумеюць таго ў нас. Памятаецца, Вы апавядалі, як Ваш сын, жывучы ў Маскве, прыязджаў у Глыбокае і з асалодай еў пастаўскі тварог. Еў і еў, не мог наесціся! І брэнд у таго тавара ёсць – "Паставы Гарадок". То можна з усёй адказнасцю сцвярджаць, што прысутнічае такі панятак – "беларуская якасць", як і па аналогіі – "сапраўдная нямецкая якасць", "сапраўдная японская якасць"… як і "кітайская якасць". На фоне гэтага я аніяк не разумею, чаму Глыбоцкі кансервавы завод цяпер клічуць "ОАО Купцовъ». Ну, ладна, назвалі б яго "Глыбоцкі купец", проста "Купец"... Усё ж глыбоцкія купцы ездзілі з таварам у Рыгу і Каралевец (Кёнігсберг). Аднак, тут прынцыповы знак (літара) у канцы слова – "Ъ". І ўсе мае суразмоўцы аднагалосна задаюць пытанне: "Што павінны падумаць пакупнікі ў Расіі? Прадукт выраблены ў Расіі? Тады што? На прадукцыю "Купцова" не распаўсюджваецца панятак "беларуская якасць"? Тое – "расійская якасць"?

З гэтай нагоды згадваецца адна тэлеперадача на 1-ым расійскім ТВ-канале – "Кантрольная закупка". У нейкім супермаркеце адбылася дэгустацыя пакупнікамі згушчанага малака, пры гэтым пакупнікі не ведалі вытворцаў прапанаванага для дэгустацыі згушчанага малака. Яно было пранумаравана лічбамі. Прадэгуставалі. Большасці дэгустатараў па смаку і якасці спадабалася малако пад пэўнай лічбай.

– Так, гэта згушчанае малако – вытворчасці Глыбоцкага малочнакансервавага камбіната, Беларусь. Яго мы і раім вам набываць!– рэзюмаваў вядучы перадачы.

Вось гэта і ёсць твар краіны. Надпісы "Made in Belarus", "Выраблена ў Беларусі", "Сделано в Беларуси" – ужо ёсць (ці павінна быць) гарантам якасці. А беларускамоўны тэкст на цэтліку (зразумела, з дубліраваннем па-руску, бо тавар – экспартны) павінен толькі ўзмацняць эфект на замежных пакупнікоў.

Будзем спадзявацца, што дарожнікі пачуюць Вашыя крытычныя заўвагі і заменяць шыльду, якая напісаная "трасянкай", на беларускамоўную – "МАРГІ". І дзякуй Вам за цікавасць да нашай мясцовай гісторыі, беларускай мовы і культуры, за адраджэнне зніклай вёскі "Маргі" і за Ваш унёсак у развіццё агратурызму на Глыбоччыне.

---

[1] Гл. "ВГ" №34 (594) ад 25 жніўня 2011 года, артыкул – "Жить в соответствии с законами природы".

[2] Ёсць і альтэрнатыўныя погляды на паходжанне назоваў Волта, Мнюта, Аута. Некаторыя даследчыкі выводзяць іх паходжанне з балтцкіх моваў.

# Крыжовы шлях на Мосарскай Кальварыі

■ Кс. Аляксей Юркайць, *адміністратар парафіі Мосар.*

**Кожны чалавек у сваім жыцці праходзіць шлях, дзе ёсць Узнёсласці і падзенні, радасці і горычы, раўніны і ямы…**

На распачацце святых велікапосных рэкалекцый у пятніцу, 16 сакавіка, у Мосары вернікі прайшлі Крыжовы шлях пакаяння па Кальварыі, каб зноў перажыць таямніцу крыжовага адкуплення чалавецтва і смерці Езуса Хрыста.

На гэтае адмысловае набажэнства вернікі прыйшлі, трымаючы ў сваіх руках крыжы, прынесеныя з дому. Разважанне кожнай стацыі падрыхтавалі самі парафіяне і падчас Крыжовага шляху неслі вялікі бярозавы крыж як сімвал Хрыстовага Крыжа.

Пасля ўрачыстага благаслаўлення пры апошняй стацыі душпастыр парафіі, ксёндз Аляксей Юркайць, заахвоціў вернікаў скарыстацца ласкай Адпусту і прыняць плённы ўдзел у рэкалекцыях, а таксама нагадаў, што намаганнямі памерлага кс. Юозаса Булькі 10 кастрычніка 2004 г., у дзень 490-годдзя летапіснага ўспаміну Мосара, на Гары Крыжоў быў устаноўлены велізарны крыж, як працяг Мосарскай Кальварыі, таму ў 2014 годзе будзе адзначацца 500-годдзе Мосара і да Юбілею вёскі Мосар надалей таксама будуць адбывацца свецыяльныя набажэнствы і парафіяльныя падзеі.

Набажэнства Крыжовага шляху на Мосарскіх могілках было цудоўнай магчымасцю не толькі падзяліць з Езусам цяжар Крыжовай дарогі, але ўбачыць сваю слабасць і нявернасць і паглядзець на ўласнае жыццё ў духу жалю за ўчыненае зло, грахі, каб, ачысціўшыся ад іх, з радасцю і надзеяй сустракаць Велікдзень – свята Ўваскрасення, што ёсць сэнсам нашага жыцця і веры. Як казаў апостал Павел: "Калі Хрыстос не Ўваскрос, дык дарэмная вера вашая"(1 Кар 15, 17).

Падчас рэкалекцый Суддзя касцёльнага суда Віцебскай дыяцэзіі і душпастыр дзеркаўшчынскай парафіі кс. Віталь Галец дапамог вернікам зноў перажыць навяртанне і адрадзіць нанова веру ў Хрыста, каб захоўваючы яе пяшчотна ў сэрцах, як каштоўны скарб ў гліняных начыннях, мы маглі сустрэць Уваскрасенне!!!









■ Аляксандр Івашчонак, *бакалаўр гісторыі, г. Нэапаль, Італія.*

Працяг.
*Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619), №8(620), №9 (621), №10(622); №11 (623), №12 (624) за 2012 год.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

# Мястэчка Глыбокае

**Ізноў нагадаем нашым чытачам, што мястэчка Глыбокае на час апавяданьня па гэтай тэме знаходзілася ў раёне сёньняшняга пляца 17 Верасьня і належала манахам Кармэлітам. Горад жа Глыбокае – быў праз рэчку ў раёне цяперашняга Цэнтральнага пляца.**

## Да 181-й гадавіны выбуху паўстаньня 1831 г. на Глыбоччыне

Паўстаньне 1830-1831 гг., альбо інакш называнае Лістападаўскім паўстаньнем, распачалося ў Варшаве 29 лістапада 1830 г., аднак на Глыбоччыне гэтае паўстаньне распачалося значна пазьней, а дакладней 10 красавіка 1831 г. Менавіта ў гэты дзень у Шаркоўшчыне адбыўся зьезд мясцовай шляхты Дзісьненскага павету пад кіраўніцтвам графа Аляксандра Лапацінскага, які распачаў кансалідацыю мясцовых патрыётаў і духавенства ў барацьбе супраць расейскіх акупантаў з мэтай аднаўленьня Рэчы Паспалітай. Аляксандар Лапацінскі адразу наладзіў сувязь з паўстанчым камітэтам у Вільні і Варшаве, і менавіта на іх падабенства распачаў стварэньне паўстанчай канфэдэрацыі ў Дзісьненскім павеце.

Дня 10 красавіка ў Шаркоўшчыну прыбылі:
1. Вінцэнты Корсак.
2. Ігнацы Корсак.
3. Вінцэнты Вінч.
4. Баніфацы Вінч.
5. Казімір Лапацінскі.
6. Язэп Лапацінскі.
7. Ігнацы Клёт.
8. Адольф Хомскі.
9. Аўгуст Хомскі.
10. Адольф Багуцкі.
11. Антоні Баярскі.
12. Канстантын Ліневіч.
13. Айцец Нарцыз Валынскі, кармэліт з Глыбокага.
14. Ксёндз Яленскі, вуніят.
15. Аляксандар Пангоўскі.
16. Луц'ян Плятэр.
17. Фэрдынанд Плятэр.
18. Рыпінскі.
19. Абуховіч.
20. Ян Клётт
21. Рудольф Клёт.
22. Мікалай Клёт.
23. Гэнрык Клёт.
24. Міхал Клёт.
25. Бароўскі.
26. Мацей Салагуб.
27. Язэп Валасоўскі.

Удзел у паўстаньні прыняла ня толькі шляхта, але таксама і мясцовыя кадэты з Дзісны (каля 12 чалавек). У суме ў Шаркоўшчыну прыбыло каля 50 чалавек.

13 красавіка паўстанцы прыбылі ў Лужкі ў кляштар айцоў піяраў, дзе айцец Адам Татур, піяр, напісаў Акт канфедэрацыі аб далучэньні Дзісьненскага павету да Рэчы Паспалітай. Пры кляштары быў створаны Паўстанчы Камітэт пад кіраўніцтвам Рамуальда Падбіпенты, а ў склад камітэту ўвайшлі: граф Аўгуст Бжастоўскі, граф Антоні Шырын, Павел Міхалоўскі, Антоні Корсак, Бэнэдыкт Клёт і Фэлікс Багуцкі. На сакратароў выбралі Міхала Куроўскага і айца Адама Татура, піяра, а іх намесьнікамі абралі Флар'яна Карказевіча, Яна Буйніцкага, Нэстара Буйніцкага, Адама Куроўскага, Яна Нарніцкага, Тамаша Мірскага і Канстантына Валасоўскага.

Акрамя таго быў створаны Экзаменацыйны Камітэт пад кіраўніцтвам графа Міхала Храпавіцкага, а пасьля яго адмовы – кіраўніком быў Пётра Вінч. У склад гэтага камітэту ўвайшлі таксама Аўгуст Хомскі і Язэп Корсак.

Дзісьненскі павет дадакова быў падзелены паўстанцамі на камэндатуры. Для мястэчка Глыбокае камэндантам быў прызначаны Язэп Ляскоўскі, а для горада Глыбокае – спачатку вуніяцкі пробашч Аляксандар Скабалановіч, а пасьля Ігнацы Корсак, для Плісы – Нэстар Буйніцкі.

На галоўнакамандуючага паўстанчымі войскамі ў Дзісьненскім павеце быў абраны дзяржаўца радзівілаўскага Глыбокага – Валянтын Брахоцкі, а яго ад'ютантам – Алойзы Буйніцкі і Ян Буйніцкі. Кавалерыяй кіраваў граф Міхал Храпавіцкі, а яго намесьнікам быў Мікалай Клёт.

Як бачна, мястэчка Глыбокае амаль ўвесь красавік знаходзілася ў руках паўстанцаў. Дня 3 траўня паўстанцы з 3-тысячным войскам занялі Дзісну.

Актыўны ўдзел у паўстаньні прынялі і глыбоцкія манахі Кармэліты босыя. Як вядома з паўстанчых крыніц, Кармэліты былі першымі паўстанцамі ў мястэчку Глыбокае.

Вось сьпіс Кармэлітаў, якія бралі ўдзел у паўстаньні[1]:

**1.** Айцец Уладыслаў Казакевіч – меў 61 год, менавіта ён быў пачынальнікам антырасейскага руху на Глыбоччыне, і варта памятаць, што менавіта ён быў уладальнікам мястэчка Глыбокае. Зьяўляўся капэлянам[2] паўстанчых атрадаў.

**2.** Айцец Нарцыз Валынскі – 27 год, кіраўнік глыбоцкіх брацтваў, менавіта дзякуючы яму, члены брацтваў бралі актыўны ўдзел у паўстаньні і менавіта яны займаліся закватэраваньнем ашмянскіх і вілейскіх атрадаў у Глыбокім. Быў капэлянам паўстанчых атрадаў.

**3.** Айцец Рамуальд Глінскі – 40 год, адначасава ён быў пробашчам глыбоцкай фары Сьв. Тройцы. Быў капэлянам паўстанчых атрадаў.

**4.** Брат Анзэльм Гурскі – 27 год, манахам быў 4 гады.

**5.** Брат Патрыцы Корсак – 17 год, манахам быў 2 гады.

**6.** Брат Ігнацы Руткоўскі – 18 год, манахам быў 2 гады.

Могуць зьявіцца спрэчныя думкі, як манахі маглі прыняць актыўны ўдзел у паўстаньні? Адказ ня будзе складаны. Варта зьвярнуць увагу на асобы гэтых манахаў. Айцец Казакевіч і айцец Глінскі былі прадстаўнікамі мясцовай улады – уладальнік мястэчка Глыбокае і пробашч. Факт іх удзелу ў паўстаньні быў выкліканы вельмі складанай і нязноснай рэальнасцю існаваньня ў Расейскай Імпэрыі, таму яны былі здольныя на шмат чаго, каб зьмяніць палітычную сітуацыю, каб вызваліцца з-пад расейскага прыгнёту. Іншыя манахі былі вельмі маладымі асобамі ад 17 да 27 год, якія жылі ў кляштары ня больш 2-3 гадоў, таму яшчэ не навучыліся манаскаму стылю жыцьця. Акрамя таго ўдзел у паўстаньні быў найвялікшай праявай патрыятызму і любові да радзімы. Як бачна, аж 6 манахаў брала ўдзел у паўстаньні, азначала гэта тое, што ўсім жыхарам мястэчка, ня толькі сьвецкім, але і духоўным, карцела як мага найхутчэйшага вызваленьня з-пад расейскай акупацыі.

Аднак, на жаль, ужо 16 траўня расейскі гэнэрал Саф'янаў заняў Глыбокае, дзе знаходзіліся паўстанчыя атрады з Ашмянскага і Вілейскага паветаў. Гэтыя атрады памаршаравалі ў Лужкі, дзе аб'ядналіся з атрадамі з Дзісны і ўтварылі 10 тыс. войска, якое падзялілася на дзьве групы. Першая група пад кіраўніцтвам Брахоцкага вырушыла праз Мосар у Браслаў, з гэтай групай вырушыў таксама і айцец Татур, які забраў з сабой усе акты паўстаньня, каб гэтыя дакумэнты не дасталіся ў рукі расейцаў. Другая група пад кіраўніцтвам братоў Адахоўскіх асела ў лясах пад Глыбокім.

Аднак ня ўсе прадстаўнікі шляхты пайшлі з Брахоцкім у Браслаў, некаторыя вярнуліся дахаты.

Пад канец траўня ў мястэчка Глыбокае прыбыў сам Мураўёў, а на начальніка горада Глыбокае прызначыў палкоўніка Макарава.

Прыехаў Мураўёў у Глыбокае, каб праводзіць сьледства па справе паўстаньня. Затрымаўся ён у кляштары Кармэлітаў босых, можа й па іроніі лёсу меў той самы пакой, дзе затрымаўся Напалеон Банапарт. Першым вязьнем, які апынуўся ў падзямельлях глыбоцкага кляштара, быў кіраўнік паўстаньня – Аляксандар Лапацінскі. Мураўёў асабіста праводзіў сьледства–катаваньні. Аднак варта дадаць, што Мураўёў досыць нечакана ставіўся да зняволення паўстанцаў. Напрыклад, калі да яго ў Глыбокае прыбыў Адольф Багуцкі і сам прызнаўся, што браў удзел у паўстаньні, то Мураўёў ня толькі яго памілаваў, а яшчэ зрабіў Багуцкага сваім ад'ютантам. Аднак гэта было адзінае здарэньне.

Нашыя землякі былі асобамі з гонарам, і таму, прыезд і падданьне расейцам для іх было горшым за сьмерць, а Мураўёў найперш за ўсё паставіў сабе за мэту на зламаньне гэтага гонару – праз прыніжэньне іх патрыятычных пачуцьцяў.

Ужо 3 чэрвеня Мураўёў закончыў першы тур сьледстваў-катаваньняў. Кару вязьніцай ў Дынабургу[4] атрымалі:
1. Рамуальд Падбіпента.
2. Граф Антоні Шырын.
3. Павел Міхалоўскі.
4. Антоні Корсак.
5. Ігнацы Корсак.
6. Фэлікс Багуцкі.
7. Алойзы Буйніцкі.
8. Міхал Куроўскі[3].
9. Флор'ян Карказевіч.
10. Ян Буйніцкі.
11. Адам Куроўскі[3].
12. Ян Нарніцкі.
13. Язэп Сімашка.
14. Антоні Пангоўскі.

Акрамя таго Мураўёў напісаў сьпіс паўстанцаў, якіх трэба было злавіць і адаслаць у вязьніцу ў Дынабург. У гэтым сьпісе быў таксама і глыбоцкі Кармэліт Нарцыз Валынскі:
1. Адольф Багуцкі.
2. Адольф Хомскі.
3. Аўгуст Хомскі.
4. Мікалай Клёт.
5. Язэп Валасоўскі.
6. Казімір Лапацінскі.
7. Вінцэнты Корсак.
8. Язэп Лапацінскі.
9. Валянтын Брахоцкі.
10. Граф Міхал Храпавіцкі.
11. Эдвард Барташэвіч.
12. Айцец Адам Татур, піяр.
13. Ксёндз Зялінскі.
14. Айцец Нарцыз Валынскі, кармэліт.
15. Айцец Гладуноўскі, францішканін.
16. Адам Кастравіцкі.
17. Бэнэдыкт Клёт.

Акрамя таго тры дні пазьней Мураўёў падзяліў Дзісьненскі павет на ключы і кварталы. Кіраўніком глыбоцкага ключа быў прызначаны Язэп Корсак (гэта сьведчыць пра тое, што Мураўёў ня ведаў пра ўдзел у паўстаньні Язэпа Корсака). Мястэчка Глыбокае было падзеленае на 5 кварталаў, а іх начальнікамі былі прызначаныя Язэп Акушка, Аляксандар Рудаміна, Ігнацы Кулеша, Раман Фурс і Пётра Вінч (таксама ўдзельнік паўстаньня). Гэтыя асобы былі адказныя за супакой у мястэчку. Начальнікі кварталаў павінныя былі кантраляваць усе вуліцы і пляц і не дазваляць нікому там зьбірацца ў групы большыя, чым за 2-3 асобы. Апроч таго павінныя былі пісаць кожны дзень Мураўёву рапарт з інфармацыяй на тэму паўстанцаў, якія хаваліся ў лясах каля Глыбокага.

У першай палове чэрвеня 1831 г. Мураўёву ўдалося схапіць наступных паўстанцаў, якія хаваліся ў лесе каля Глыбокага:
1. Казімір Заліўскі.
2. Бэнэдыкт Клёт.
3. Станіслаў Клёт.
4. Адам Кастравіцкі.
5. Айцец Каласанты Адамовіч, піяр.
6. Айцец Адам Татур, піяр.
7. Айцец Станіслаў Заленскі, піяр.

Усе гэтыя паўстанцы былі высланыя ў вязьніцу ў Дынабург.

Вяртаючыся да нашых Кармэлітаў, варта падрэсьліць, што ніхто з іх не патрапіў у вязьніцу, а ўсё гэта дзякуючы дыпламатыі айца Панкацыя Крушынскага, які, будучы эканомам у глыбоцкім кляштары, прыняў з вялікім гонарам Мураўёва, які быў так уражаны прыёмам і асобай Панкрацыя Крушынскага, што манахі для яго сталі па-за падазрэньнямі. Менавіта дзякуючы стараньням Крушынскага, прыёр Казакевіч і пробашч Глінскі не трапілі ў вязьніцу[5]. У вязьніцу таксама не патрапіў айцец Валынскі, які ўцёк з паўстанцамі, і след па ім згінуў, бо ў Глыбокае ён ужо больш ніколі не вярнуўся. Зьніклі таксама і манахі Гурскі, Корсак і Руткоўскі, якія таксама ўжо не вярнуліся ў кляштар.

Дзякуючы стараньням айца Крушынскага кляштар не панёс аніякіх стратаў, Мураўёў быў вельмі задаволены сваім побытам ў Глыбокім. Дзякуючы айцу Крушынскаму да арышту ня трапіў таксама і вуніяцкі пробашч з горада Глыбокае Аляксандар Скабалановіч.

*Працяг будзе.*



**Гэрб паўстаньня 1830-31 гг.**



**Гераіня паўстаньня 1830-31 гг Эмілія Плятэр, якую клічуць беларускай Жаннай д'Арк.**




**Пяць злотых часоў паўстаньня 1803-31 г.**

**Заўвагі рэдакцыі:**
[1] Гэдэман (аўтар кнігі па гісторыі Глыбокага) памылкова падае ў гэтым сьпісе айца Ізыдора Гінтаўта. Аднак Гінтаўт на той час быў правінцыялам у Вільні.
[2] Вайсковы сьвятар.
[3] Куроўскія валодалі маёнткам Гатаўшчына.
[4] Цяпер Даўгаўпілс.
[5] Гэдэман памылкова падае, што прыёр быў у вязьніцы.

